# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №46 (155), 16 ЛІСТАПАДА 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ




# СПРОБА СПОВЕДЗІ

***Пакаленне 40-гадовых спрабуе абагульніць свой творчы і жыццёвы досвед. Сёння перад чытачамі — вядомы беларускі мастак Уладзімір ТОЎСЦІК.***

***Нагадаем, што ў верасні ў Нацыянальнай мастацкай галерэі адбылася ўжо другая ягоная персанальная выстава. Цыкл твораў "Святло і цені" вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Мы не рэцэнзуем гэтыя сем цудоўных карцін: больш істотнай нам падалася спроба спасцігнуць унутраны свет мастака праз ягоную споведзь.***

— Змяняецца час, і змяняюцца людзі, хаця ў сваёй аснове яны ўсё ж такі застаюцца нязменнымі. Калі кажуць, што разам з часам мяняецца мастак і ягоная творчасць, маецца на ўвазе толькі развіццё таго, з чаго пачалося. Так мне кажа мой уласны вопыт. Праблема, як захаваць сябе, стаяла заўсёды востра перад творчымі людзьмі. Я ведаю, што маё пакаленне калісьці ішло ў дворнікі, каб захаваць сябе, не здрадзіць сваёй духоўнай устаноўцы. Так знаходзілі паратунак для сваёй асобы і ставілі гэта вышэй за ўсё.

Наогул кажучы, жыццё і мастацтва — рэчы розныя. Мастацтва ўсё ж такі існуе, каб даць чалавеку магчымасць крыху адпачыць ад цяжкасцяў жыцця, паказаць яму выйсце ну хаця б у казку. Я не баюся гэтага слова, таму што шкадую чалавечую душу, якой прыходзіцца змагацца з нашымі сучаснымі абставінамі. І я сам, можа, таму і выжыў як чалавек — я маю на ўвазе не маё фізічнае існаванне — што ў мяне ёсць маё мастацтва. Я прыходжу ў майстэрню, бяру ў рукі пэндзаль, чую пах фарбаў — і паглыбляюся ў іншы свет, поўны прыгажосці і драматызму, але ачышчаны ад таго бруду, які заўсёды збіраецца ў жыцці, як пыл на падлозе.

Мяне прываблiваюць культурныя і духоўныя пошукі Усходу і Еўропы. Я шукаю сваё месца як мастак паміж гэтымі двума полюсамі. Задача абвастраецца і тым, што я яскрава адчуваю сябе беларусам з асаблівасцямі бачання, уласцівымі менавіта нашаму народу.

Як было раней? Мастацтва адаптавалася да выставачнай залы, музея, а цяпер яно накіравана на самога гледача, ягонае ўласнае жыццё. Карціны не толькі ўваходзяць у побыт, інтэр'ер жылля, яны пачынаюць адыгрываць ролю як члены сям'і, уплываць на ўзаемаадносіны і настрой. І ў мастака змяняецца стаўленне да сваёй працы, мне здаецца, што абвастраецца пачуццё асабістай адказнасці за тое, што робіш. Я кажу тут пра сябе і свае адчуванні.

Пры тым, што жыццё змяняецца не заўсёды ў добры бок, асабліва эканамічнае становішча, мастаку цяпер стала лягчэй: з'явілася магчымасць ездзіць за мяжу, бачыць свет. Ён набыў цяпер адносную творчую свабоду, таму што не так даўно такія рэчы можна было рабіць толькі з дазволу вышэй пастаўленых улад. Я, напрыклад, не хацеў бы звароту ў мінулае. Мне цяжка, але мне падабаецца жыць у тым часе, які выпала перайсці.

Ёсць мастакі "прамога бачання": што бачу, тое і апяваю. Але я па сваёй прыродзе належу да іншых. Мае кампазіцыі імкнуцца да мантажу, сумяшчэння часоў. Як тое адбываецца і ў жыцці. Свет паменшыўся: цяпер за адну гадзіну можна перанесціся з адной краіны ў другую, з аднаго полюса да процілеглага. Усе збіваецца ў адзін эмацыянальны кавалачак. Цяпер у замежжы можна сустрэць свайго земляка, якога гадамі не бачыш на радзіме і не можаш "вылавіць" па тэлефоне. І гэтае светаўспрыманне адбіваецца ў маёй творчасці, у структуры маіх твораў. Яно не супярэчыць жыццёвым рэаліям.

У маіх працах заўсёды ёсць пэўныя акцэнты — не толькі кампазіцыйныя ці сэнсавыя. Яны для мяне больш значныя: гэтыя акцэнты выпакутаваныя маім жыццём, маім вопытам. Тым больш, што ў працах я не толькі іду следам за традыцыяй, але яшчэ і працягваю яе. Як магу і разумею, канешне.

Маё мастацтва павінна быць святам. Я так адчуваю. У ім павінна быць святло і прыгажосць, незвычайнасць і яскравасць. Я хачу, каб яно было выратавальным для чалавека, які апынуўся на змрочным баку жыцця.

Слухала і запісала Ларыса САЛОДКІНА
Фотакалаж Генадзя ЖЫНКОВА



## СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

ВЕРТЫКАЛЬ

### А.ЛУКАШЭНКА: У ВЫПАДКУ КАНФРАНТАЦЫІ Я НЕ СТАНУ РАЗГАНЯЦЬ ПАРЛАМЕНТ.

"— Я прасіў дэпутатаў не разглядаць важнейшыя для Беларусі законапраекты без мяне. Калі яны гэта зробяць, я проста гэтыя законы не падпішу. Цяперашняму парламенту засталося некалькі месяцаў працаваць, таму ў выпадку якой-небудзь канфрантацыі з усенародна абраным прэзідэнтам я не стану яго разганяць."

"Вы ж бачыце, хто сядзіць у Вярхоўным Савеце рэспублікі — тыя, хто праваліў "всё и вся". Яны трымаюцца за свае крэслы мёртвай хваткай."

"Я доўга рыхтаваў сустрэчу з лідэрамі партый і рухаў і раптам у Сочы даведваюся пра тое, што Мячэслаў Грыб яе ўжо правёў. Так, ён меў права гэта зрабіць. Але, на мой погляд, старшыні Вярхоўнага Савета проста не годна было пачынаць барацьбу за лідэрства. У рэшце рэшт гэта было некарэктна ў стаўленні да прэзідэнта, які рыхтаваў сустрэчу, але з-за хваробы адклаў яе. А вынік вам, напэўна, вядомы: лідэры партый і рухаў рэспублікі выказаліся супраць дамовы об згодзе."

"Мы прыпынілі падзенне вытворчасці ў прамысловасці. Прычым зроблена гэта толькі за кошт сілавога ціску на кадры — яны, як высветлілася, проста апусцілі рукі, не хацелі працаваць."

**(З інтэрв'ю прэзідэнта Беларусі карэспандэнту газеты "Труд" ад 10 лістапада 1994 г.)**

## ПРОДКІ ПАРУПІЛІСЯ, ЧАРГА ЗА НАМІ

Адзін з найбуйнейшых фестываляў культуры, што ў Эдынбургу, сталіцы Шатландыі, ладзіцца не афіцыйным, не агульнапрынятым шляхам, без ласкі чынавенства. Руплівец гэтага надзвычайнага свята для прадстаўнікоў ці не ўсіх прыгожых мастацтваў, фундатар і кіраўнік Еўрапейскага фонду мастацтваў, прафесар Рычард Дэмарка застаўся верным сабе і наведваючы Беларусь з 15 па 20 лістапада — па-за так званымі высокімі каналамі. Папярэджваючы ягонае наведванне, прадстаўнік Кінгстан-універсітэта (Лондан) доктар Флаўэрс заўважыў, што пра ўзровень сувязяў нашых краін парупіліся ўжо... нашыя продкі. Дастаткова нагадаць пра легендарнага героя шатландскага войска Джорджа Лермонта, — геній ягонага ўнука Міхаіла Лермантава дасюль уплывае на сусветную літаратуру. Або пра віленчука Фелікса Яневіча, які апынуўся ў Эдынбургу ў 1815 годзе і зафундаваў невялікі.. музычны фестываль. Або пра шатландцаў, якія здаўна асядалі на землях Вялікага княства Літоўскага, — так, што вопратка, якую яны не кідалі насіць і вырабляць, — стала набыла назву шатландскай...

Спадар Дэмарка мае на ўвазе развіццё і паглыбленне сувязяў з Беларуссю. Варта зважыць на тое, што яго ўвогуле цікавіць культура Усходняй Еўропы, і на цудоўным свяце ў Эдынбургу ўжо былі прадстаўлены некаторыя славянскія краіны; спадар Дэмарка апякуецца артыстамі з Сараева... Чарга за беларусамі.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку:* сп.Дэмарка з навучэнцамі Французскага Каталіцкага коледжа ў Лондане.

**Фота Алана ФЛАЎЭРСА**

## ДАВЕРЫЦЦА "БОСКАЙ ІНТУІЦЫІ"...

Ці актуальна напрыканцы XX стагоддзя гаварыць пра цуд? Тым больш у нашым стомленым і часам абыякавым грамадстве?.. Але, на шчасце, хтосьці яшчэ можа дазволіць сабе жыць дзіўнымі ілюзіямі, сцвярджаючы такім чынам сваё Я, шчыра і неардынарна. У мастацтве — гэта прывілея абраных, таму і кантакты на творчым узроўні заўсёды унікальныя.

Музыка Дзмітрыя Шастаковіча дала яму магчымасць выказваць забароненую праўду, і яна, гэта музыка, дазваляе нам успрыняць жахлівае прызнанне мастака, агонію яго думкі як проста мастацтва.

Трагедыя генія, які быў вымушаны працаваць у атмасферы жорсткай ідэалагізацыі мастацтва і гранічнай яго рэгламентацыі, адлюстравана ў шматлікіх опусах кампазітара, у тым ліку і ў Пятай сімфоніі, што адкрывае жахлівую панараму жыцця 30-х гадоў.

Выкананне Пятай сімфоніі аркестрам Беларускай акадэміі музыкі, прысвечанае памяці геніяльнага дырыжора сучаснасці Віктара Дуброўскага, без сумнення, пакінула адбітак у душах слухачоў, якія прыйшлі 18 кастрычніка ў залу Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Народны артыст РБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, прафесар Міхаіл Казінец, які дырыжыраваў у гэты вечар, вельмі тонка адчуў і перадаў найскладанейшы псіхалагізм сачынення. Лёс распарадзіўся так, што яшчэ ў маладосці яму пашанцавала бачыць Шастаковіча — прысутнічаць на рэпетыцыі 13-й сімфоніі, якой кіраваў аўтар.

І вось, калі мінула амаль чвэрць стагоддзя, адбылася новая сустрэча, працягнулася калісьці пачатае знаёмства, кантактаванне з кампазітарам. У першым аддзяленні канцэрта сімфонія міжвольна апынулася паміж дзвюма доўгімі паўзамі. У гэтыя застылыя імгненні, здавалася, нейкая незразумелая сіла паралізавала залу: спачатку — паведамленнем пра смерць Дуброўскага, потым — адкрыццём Шастаковіча.

Палымяная споведзь Шастаковіча была глыбока асэнсавана і ўдзельнікамі маладзёжнага аркестра, нягледзячы на іх першы зварот да класікі XX стагоддзя. Сумесная праца дырыжора і калектыву працягваецца ўжо трэці год. За гэты час выконваліся 3-я і 7-я сімфоніі Бетховена, 1-я сімфонія Брамса, шэраг іншых сімфанічных сачыненняў. Значнай падзеяй у станаўленні аркестра, па словах М.Казінца, стала 6-я сімфонія Чайкоўскага. Канцэртны рэпертуар увесь час абнаўляецца. У яго ўключаюцца вакальна-інструментальныя творы: у перспектыве публіцы будзе прапанавана Фантазія для хору з аркестрам Бетховена, паэма Генрыха Вагнера "Вечна жывыя".

У рамках пятага і восьмага філарманічных абанементаў аркестр часта прадстаўляе маладых таленавітых выканаўцаў. Летась быў выкананы 5-ы фартэпіянны канцэрт Бетховена з лаўрэатам міжнародных конкурсаў Юрыем Бліновым. Зараз у плане рэпетыцый — Рапсодыя на тэму Паганіні Рахманінава, у якой у партыі фартэпіяна выступіць адзін з піяністаў-віртуозаў Францыі Аркадзь Валадось. І, канечне ж, закранаючы гэтую сферу дзейнасці калектыву, нельга не згадаць аб нядаўнім натхнёным выкананні шуманаўскага канцэрта a-moll з найпаэтычнейшым сола Дзмітрыя Марозава.



Пераключэнне ў сферу інтымнай лірыкі Шумана пасля магутнай экспрэсіўнай музыкі Шастаковіча было надзвычайным. Тым больш, што на гэты раз трактоўка І і ІІ частак Канцэрта па духу была хутчэй эўсебіеўскай, гэта значыць, выходзіла не са знешняга афекта — жэста, а з самай глыбіні запаветнага пачуцця, якім напоўнена гэтая музыка. У фінале, наадварот, пераважалі флярэстанаўскія настроі: рамантычная ўсхваляванасць на мяжы неусвядомай імправізацыі і, як следства, непрадказальныя эмацыянальныя перапады. У параўнанні з мінулым выкананнем гэтага твора ў зале акадэміі, канцэрт у філармоніі асабліва крануў сваёй больш мяккай, тонкай інтанацыйнай палітрай і, разам з тым, не столькі тэхнічнасцю, віртуознасцю, колькі нейкім інтэлектуальным стаўленнем да музыкі.

Без сумнення, сачыненне Шумана сучаснае ўнутранаму светаадчуванню Дзмітрыя Марозава. Студэнт Беларускай акадэміі музыкі па класу прафесара Валянціны Леанідаўны Рахленка, лаўрэат міжнародных конкурсаў, гастралюючы музыкант, ён, тым не менш, працягвае шукаць новыя шляхі ўвасаблення сваёй творчай індывідуальнасці. Шмат у чым гэта заслуга і ягонага педагога, які арыентуе сваіх вучняў на разуменне асобы кампазітара, яе унікальнасці і асэнсаванне музыкі, перш за ўсё, у аўтарскай канцэпцыі ці максімальнага набліжэння да яе. Такое выхаванне музыкантаў спрыяе збліжэнню інтэрпрэтатара і кампазітара і, у выніку, сінтэзу іх творчых імкненняў, што дазваляе выканаўцу трапіць у элітарную сферу чалавечага быцця — мастацтва — і толькі тады даверыцца "боскай" інтуіцыі, творчасці на ўзроўні неўсвядомленага.

Будуць новыя канцэрты, новыя сустрэчы і з аркестрам Беларускай акадэміі музыкі, і з Дзмітрыем Марозавым. І хацелася б, у сувязі з будучымі выступленнямі, пажадаць ім захаваць дзіўную здольнасць жыць творчасцю і цаніць унікальную магчымасць штодзённай сустрэчы са звычайным цудам, з тым, "што не магло б адбыцца, калі б хто-небудзь не зрабіў пэўнага намагання..."

**Людміла ЛАЗАРЧЫК, студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

*На здымку:* лаўрэат Міжнародных конкурсаў Дзмітрый Марозаў.

## ПЛАКАТАМ — ПА СНІДу!

Міністэрства культуры і друку, Міністэрства аховы здароўя, Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь абвяшчаюць чарговы тур адкрытага рэспубліканскага конкурсу на стварэнне лепшага твора плакатнага мастацтва пад дэвізам "Небяспека — СНІД".

Конкурс праводзіцца з 25 кастрычніка па 25 лістапада 1994 г. Удзельнікі конкурсу 1994 г. у вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы па адрасе: г.Мінск, вул.Казлова, 3, Палац мастацтва.

Арыгіналы плакатаў павінны быць наклеенымі на кардон, памерамі 60 х 90, 70 х 108, выкананыя мастаком у тэхніцы, спрыяльнай аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж). Па тэхнічных якасцях работы павінны адпавядаць умовам друку: без склеек, трэшчын, перагібаў.

Фотаплакаты прадстаўляюцца ў адрэтушаваным выглядзе. На адваротным баку плакат пазначаецца дэвізам з шасцізначнай лічбы (вышыня знакаў — 1 см). Пад гэтым жа дэвізам прадстаўляецца запячатаны канверт, у якім павінны знаходзіцца звесткі аб аўтару і яго адрас.

Арыгіналы плаката, прадстаўленыя на конкурс, якія не адпавядаюць умовам конкурсу, журы не разглядае.

За адносна лепшыя плакаты на перыяд 1994 г. устанаўліваецца тры прэміі.

Кансультацыі адносна тэматыкі конкурсу, тлумачальныя матэрыялы можна атрымаць у Рэспубліканскім цэнтры па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам **(220030, г.Мінск, вул.Ульянаўская, 3, тэл. 27-18-24)**.

Згодна з рэкамендацыяй Сусветнай Арганізацыі Аховы Здароўя, у плакатах па барацьбе са СНІДам нельга выкарыстоўваць выявы альбо сімволіку, якая жахліва і псіхічна ўздзейнічае на людзей (шкілеты, і г.д.).

## АДАМ МІЦКЕВІЧ НА МОВЕ РАДЗІМЫ

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" рыхтуецца да друку збор твораў Адама Міцкевіча ў перакладзе на сучасную беларускую мову Пятро Бітэля. Адзін з іх быў выкарыстаны беларускім журналістам Эдвардам Тарлецкім, які ажыццявіў радыёпастаноўку паводле паэмы "Дзяды". Яе прэм'ера адбылася ў перадачы "Апоўдні" на беларускім радыё ў Дзень памінання продкаў.

У стварэнні спектакля прынялі ўдзел вядучыя акцёры купалаўскага тэатра, у ліку якіх — Стэфанія Станюта, Віктар Манаеў, Уладзімір Кін-Камінскі, Юрый Авяр'янаў. У якасці музычнага афармлення быў узяты вядомы "Полацкі сшытак".

**Наш кар.**

## "АРТ-СЭСІЯ"

Міжнародны фестываль моладзі "АРТ-СЭСІЯ" прайшоў у Гомелі. Амаль 300 удзельнікаў з Беларусі, Украіны, Шатландыі, Італіі, Францыі дэманстравалі свае мастацтва на канцэртных пляцоўках Гомельскага універсітэта. У рамках фестывалю адбыліся сустрэчы маладых жывапісцаў, разьбяроў, скульптараў, прайшла выстава французскага мастака Даніэля Масакрые, адбыліся канцэрты рок-музыкі.

На здымках: удзельнікі французскага фальклорнага ансамбля "Ля Бурэ"; студэнтка Гомельскага універсітэта Таццяна Батурава і госці з Шатландыі Джон Мітчэл і Джэсан Мэбэйн.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ**





СІТУАЦЫЯ

# КАРЦІНА... КАРЗІНА... І VIII З'ЕЗД КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

***10 — 11 лістапада ў Мінскім Палацы шахмат і шашак адбыўся VIII з'езд кінематаграфістаў. Мода на местачкова-эканамічныя разборкі, відаць не абышла творчыя саюзы. Магчыма, час наш такі. Але ж шкада, што мы пачулі амаль пра ўсё: фантазійныя даклады пра выхад з крызіснага стану беларускага кіно, пра тое, хто колькі "наварыў" на ўтварэнні і пераўтварэнні новых студый, пра парушэнні ў бухгалтарскіх справаздачах на "запусках" фільмаў. Нават атрымалі інфармацыю з трыбуны з'езда пра тое, хто з вядомых кінарэжысёраў набыў новую мяккую мэблю, што, зразумела, сведчыць пра адметныя гаспадарчыя здольнасці мэйстроў "самага важнага з мастацтваў". Пра ўсё было.***

***Толькі ні слова пра само Кіно. Яно нібы засталося дзесьці ў падполлі. Зрэшты яму не прывыкаць да партызанскіх умоў. Тэма вайны доўгія дзесяцігоддзі была нашай візітоўкай на нядаўнім савецкім кінарынку. Мяркую, што інакшага рынку не відно... Яшчэ можна сказаць, што калі на Беларусі і не было элітарнага кіно (гэта крытыкі сцвярджаюць), затое наша краіна — кузня рэжысёрскай эліты. Урэшце, ці не ўсе з прысутных пераканалі мяне ў гэтым: амаль кожны з іх з шыкам выконваў ролю Дона Карліоне сярод сваіх (прычым адну для ўсіх). Рабілі яны гэта шчыра і адкрыта. І гэта ўжо добра.***

***Малодшае пакаленне кінематаграфістаў чамусьці прадстаўлялі Міхаіл Пташук і Валеры Рыбараў. А мо гэта здзівіла толькі мяне? Апошні выпуск рэжысёраў кіно, які набіраў і вучыў сам Віктар Тураў,— адсутнічаў. Заўважце, на чале з педагогам. Магчыма, для кагосьці гэта — "фэ" мэтра, а на самой справе выпускнікоў дасюль не залічылі ў штат студыі. Хаця:"Што мне Гекуба?" — скажа малады спецыяліст. І сапраўды: што сёння тая ж студыя можа даць маладому рэжысёру?***

***У перапынках паміж паседжаннямі мне пашчасціла паразмаўляць на тэму Кіно з тымі, хто яго стварае.***



*Ігар Дабралюбаў, кінарэжысёр, народны артыст Беларусі.*

**— Ігар Міхайлавіч, над якім новым дзяржаўным заказам Вы працуеце зараз?**

— Зараз ужо гатова новая стужка паводле апавяданняў І.Шамякіна, якая называецца "Эпілог". Настрой фільма трагічны. Цяпер гэта ў сучасным кінематографе не ў модзе.

**— Ці маеце Вы прапановы працаваць у камерцыйным кіно, пра якое сёння вялася гаворка?**

— Не. Я заўсёды працаваў ад дзяржкіно. Таму хутчэй за ўсё, што я не кантактаваў ніколі з людзьмі, якія б змаглі субсідзіраваць стужку. Хаця быў перыяд у маім жыцці, калі я тры гады не працаваў, магчыма, у той час я б і паспрабаваў. Але ж гэта сумная гісторыя ў маім жыцці.

**— Што Вас больш за ўсё кранула ў працы з'езда?**

— Дый шмат чаго! Асабліва — моладзь. Ніхто не падышоў сур'ёзна да гэтага пытання: дзе моладзь працуе, альбо як ёй працаваць у сучасных умовах. Увогуле гэтага апошняга выпуску кінаспецыялістаў амаль ніхто з Саюза кінематаграфістаў і не бачыў. На паказ дыпломных прац не былі запрошаны ні Нікіфараў, ні Рыбараў, ні я. Што здымалі, што стваралі на вытворчай практыцы, нам невядома. Дзіўна неяк адбыўся гэты адасоблены выпуск. Яны не былі прадстаўлены ні Саюзу кінематаграфістаў, ні студыям. Мы з імі не знаёмы, а шкада. Нейкі недагляд Акадэміі мастацтваў.

Я памятаю, як мяне прымалі ў штат студыі: на мяне глядзелі і са мною знаёміліся мэтры беларускага кіно. Агульная ўсхваляванасць, і што самае каштоўнае — зацікаўленасць і вера ў маладое пакаленне былі тады. Сёння — усе занятыя справамі, але толькі не праблемамі маладых рэжысёраў, а ў нашага кінематографа, дзякуй Богу, ёсць свой твар, свае традыцыі, якія павінны жыць.

Вы заўважылі, што адбыўся з'езд старэйшын — у сэнсе ўзросту? Мяне надта клапоціць наш малады кінематограф і што на гэты конт зможа прапанаваць новае праўленне Саюза кінематаграфістаў.



*Міхаіл Пташук, кінарэжысёр, народны артыст Беларусі.*

**— Міхаіл Мікалаевіч, што здарылася з новым сцэнарыем пад назвай "Вітаўт"?**

— Нічога, няма грошай, каб здымаць карціну. Разам з аўтарам сцэнарыя, Аляксеем Дударавым, мы звярнуліся да Прэзідэнта Беларусі за дапамогай. Цяпер сцэнарый у яго, а мы чакаем адказу. Я ўжо стаміўся гаварыць аб вартасці і своечасовасці гэтай карціны. Яна цалкам прысвечана беларускай гісторыі, ці, як модна сёння казаць, аб Беларусі ў гісторыка-культуралагічным кантэксце. Мы ж атрымалі незалежнасць, але не ведаем сваіх каранёў. Паглядзіце, як робяць амерыканцы, монстры кінавытворчасці: адным з першых пунктаў кантракта ставіцца ўмова, каб фільм не супярэчыў амерыканскай ідэалогіі, не абражаў нацыю і законы краіны. Яны сябе паважаюць, прапагандуюць і абараняюць свае ідэалы ад еўрапейскіх, азіяцкіх і... Пачынаючы ад "чарнухі" і "баевіка" да цяжкай псіхалагічна-заглыбленай стужкі. Мы ж распачынаем толькі міжнародную кінематаграфічную дзейнасць.Зразумела, што нашай краіне ніколі не стварыць "фабрыку грёз", якая будзе прыносіць прыбытак. Дый нам гэта не да патрэбы.

**— Ваша новая стужка "Кааператыў "Палітбюро" ўжо знаёмая замежнаму гледачу...**

— Так, у гэтым годзе фільм удзельнічаў у фестывалі ў Нямеччыне і нечакана атрымаў тэлевізійны пракат. Ведаеце, як я здымаў гэты фільм? Узяў крэдыт у банку пад працэнты, зняў стужку, прадаў, пасля аддаў пазыку. Зразумела, што ўсё ідзе да гэткай мадэлі.Але павінны быць стужкі, у якіх зацікаўлена дзяржава. Прынамсі, мяне хвалюе лёс "Вітаўта"...

**— Што хвалюе вас цяпер на з'ездзе: новыя накірункі працы, будучае кіраўніцтва Саюза...**

— Ведаеце, ад змены месцаў складаемых сума не мяняецца. Саюз кінематаграфістаў па тых прынцыпах і мэтах, па якіх ён ствараўся, ужо не патрэбны. Асабіста мне мроіцца нейкая новая форма гэтай структуры, нешта накшталт клуба. Уявіце сабе ціхую залу, дзе можна сустракацца з калегамі, бізнесменамі, гаварыць аб праблемах, дэманстраваць новыя стужкі і абмяркоўваць іх. Выхоўваць сваіх дзягілевых і марозавых і не грэбаваць дапамогай таленавітай моладзі. Бо калі ты сам і рэжысёр, і пракатны агент, і прадзюсэр, гэта добра, толькі не ў нашых умовах. Вось, здавалася б, ляжыць у мяне дзевятнаццаць факсаў-запрашэнняў на розныя прэзентацыі. Едзь сабе і ствараі імідж кінакраіны. Але як падумаю, што зноў трэба шукаць грошай на дарогу — нічога не захочаш. Хачу толькі аднаго — здымаць. І каб дзяржава дапамагла фільму пра Вітаўта.



*Алег Белавусаў, мастацкі кіраўнік студыі анімацыйнага кіно.*

**— Алег Паўлавіч, што адбылося новага ў Вашым творчым жыцці за апошнія гады? Які лёс цудоўнай стужкі "Дэкамерон"?**

— Набіў шмат гузакоў, як пачаў самастойнае творчае жыццё. Тры разы быў поўным банкрутам. Падаў, уставаў і зноў пачынаў працаваць. Цяпер маю асабісты вопыт, як адрозніваць дэбіт ад крэдыта, але за дапамогай да Саюза кінематаграфістаў не звяртаўся.

Год таму знялі поўнаметражны фільм "Дэкамерон", але праката не набылі. Сумесна з дацкай кінакампаніяй "Адаптар-TV" скончылі кінааповяд пра лёс Лі Харві Освальда, пра гэту трагічна легендарную асобу. Дакументальная 75-хвілінная стужка добра раскупілася ў Еўропе. Зразумела, што ўсе правы па Заходняй Еўропе засталіся ў датчан, а ў мяне, калі так можна сказаць, — правы на "ўсесаюзным" узроўні.

Вядомы кінаканцэрн ЗША "Лео Барнэт" зацікавіўся прэзентацыйным фільмам аб Беларусі. Зараз наша студыя працуе над гэтым праектам. Цікава, што пасля гэтай стужкі чакаецца вялікі прарыў у нашу краіну замежных інвестараў, рэкламадаўцаў і часткі работадацеляў. А фінансуе гэты праект сумесная Індыйска-амерыкана-беларуская фірма "Белком".

**— Чаго Вы чакаеце ад з'езда?**

— Нічога. Хаця б толькі горш не стала. З'езд пракаціўся інертна, у лепшых традыцыях... Змены маглі б адбыцца, каб саюз узначаліў той, хто за пяць апошніх год што-небудзь зрабіў і паказаў. Усё роўна хто: майстар ігравога кіно, дакументальнага, абы не чалавек, якога разбэсцілі дзяржаўныя грошы. Дарэчы, гэта не тычыцца новага старшыні. Я маю на ўвазе спецыяліста, які без падачак і дзяржаўных грошай рабіў сваё Кіно. Займаўся пракатам і рэкламай, намагаўся выйсці на еўрапейскі кінарынак. Словам, у каго ёсць вопыт працаваць у сучасных рыначных умовах. Менавіта з еўрапейцамі мы знайшлі б агульную мову. У нас з імі ментальнасць не такая палярная, як, скажам, з амерыканцамі. Увогуле, я лічу, што для нашай краіны вялікая раскоша трымаць такую цацку, як кінастудыя. Нават шведскі кінематограф больш вядомы свету па "змешаным шлюбе" з іншым замежным кінематографам. А ў іх жа ёсць Бергман! Прычым, дзе б ён ні працаваў, заўсёды крытыка будзе ставіцца да прац Бергмана, як да эталонаў нацыянальнага кінематографа. Мы можам колькі заўгодна намагацца і не ўзгадаць ніводнага прозвішча, якое б прынесла славу нацыянальнаму беларускаму кінематографу ў свеце. За ўсе гады яго існавання.

А што тычыцца з'езда Саюза кінематаграфістаў, то дазвольце адказаць Вам гісторыяй. Некалькі год таму легендарны фінансіст сучаснасці Джордж Сорас за дзве ночы пабагацеў на некалькі нулёў за біржавыя скачкі фунта. Пазней на пытанне журналістаў: "Ці не стала сорамна Вам перад сваім народам?" — ён адказаў: няхай ураду краіны будзе сорамна перад сваім народам. Пасля гэтага кабінет міністраў падаў у адстаўку. На жаль, шмат каму з нас незнаёмыя гэтыя простыя прынцыпы маралі.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

• *Старшынёй Саюза кінематаграфістаў Беларусі на з'ездзе выбраны доктар мастацтвазнаўства, кінакрытык Анатоль Красінскі.*

# АД ПРАДЗЕДАЎ ДА ПРАЎНУКАЎ

Балюча ўсведамляць, што з адыходам у небыццё нашых продкаў мы губляем і тое, што было іх рамяством — бандарнае, ганчарнае, кавальскае, ткацкае. І калі глядзіш зараз на скарбы, створаныя іх рукамі — куфры, кублы, цабэркі, крэслы, канапы, абрусы, сурвэткі, ручнікі, — сэрца шчыміць ад болю, што ўсё менш і менш застаецца сапраўдных народных умельцаў і зусім мала іх прадаўжальнікаў. І усё ж яны ёсць.

...Тое, што робяць па адраджэнні і захаванні скарбаў народнай творчасці ў Крупскім раёне, — гэта, на мой погляд, найбольш адметнае і прывабнае ў гэтым рэчышчы, што можа служыць прыкладам і для руплівцаў на ніве культуры ўсёй Мінскай вобласці.

Адзін Аляксей Іванавіч Гамін што значыць! Акрамя ўласнага плённага творчага набытку (а яго жывапісныя творы, падараваныя па дабрачыннасці душы, упрыгожваюць дзіцячыя інтэрнаты, школы, музеі, клубы, бібліятэкі. Ён далучае да мальберта дзятву ўсяго наваколля. Мясцовая студыя выяўленчага мастацтва стала своеасаблівым гадавальнікам жывапісных парасткаў.

— Галоўнае, — расказвае Аляксей Гамін, — каб ад майстэрні да людзей быў шлях нядоўгі. А тое, што рэгулярна праводзяцца выставы твораў мастакоў з правінцыі, — то для нас гэта — лепшая падзяка і пашана.

— А калі запрашаюць на святы-кірмашы для продажу карцін, то гэта і зусім добра, бо ў сённяшні час нікому не пашкодзіць і матэрыяльная падтрымка, — дадае яго калега Фёдар Сарокін.

Яно так. У раёне вельмі шануюць самадзейных мастакоў. Метадычны цэнтр народнай творчасці яднае вакол сябе аматараў усіх відаў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Тут ёсць спецыяльны "банк даных" аб вязальніцах і вышывальніцах Надзеі Крываротт, Марыі Яфімавай, Еўдакіі Ляшковай, Галіне Макарэвіч, Аляксандры Сініцынай. Тут аб'яднаны творчымі ніцямі ткачыхі Соф'я Майзет, Феадосія Хадасевіч, майстар мяккай цацкі Вераніка Атаманава, разьбяры па дрэве Генадзь Доўгель, Міхаіл Кузняцоў, Аляксандр Міхееў. Для іх стварaецца пастаянна дзейная галерэя — так званы штабкватэра творчага супольніцтва. З іх дапамогай робяцца дзейсныя захады да перадачы новаму пакаленню здабыткаў мінулага.

— "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына..." І яе мы павінны не толькі берагчы, а памнажаць, перадаваць сваім дзецям, унукам і праўнукам, — гаворыць народны майстар, інжынер саўгаса "Колас" Пётр Аляксандравіч Сініцын.

Ён стварыў і абсталяваў майстэрню "Дзядулін варштат" пры Коласаўскім сельскім Доме культуры і наладзіў там работу. І бягуць сюды хлапчукі з цэнтральнай і суседніх вёсак. Яны тут пілуюць і габлююць, шліфуюць і фанеруюць, вырэзваюць мудрагелістыя ўзоры. Завіхаюцца за станкамі з такой ахвотай, што і апоўначы іх дадому не выправіць. А ў выніку атрымліваюцца дзівосныя рэчы: кухонныя дошчачкі, паліцы, талеркі, вазы, бо фантазіі і руплівасці сельскай дзятве не займаць.

Для адраджэння спадчыны выношвае раённы цэнтр народнай творчасці і яшчэ адну неардынарную ідэю: стварыць занальны запаведнік народнага побыту "Падворак Пратаповіча". Першыя захады для яе рэалізацыі ўжо акрэсліліся. Сам гаспадар падворка Рыгор Аляксандравіч Пратаповіч — апантаны краязнаўца, фальклярыст і этнограф — з дапамогай сяброў-старажылаў пасёлка Бобр сабраў сотні рэчаў сялянскага побыту. Яго двор ужо зараз нагадвае музейны куточак пад адкрытым небам.

Калі гаварыць увогуле аб фальклорна-этнаграфічных "напрацоўках" у іншых раёнах вобласці, то яны, на жаль, даволі сціплыя, што недаравальна. Большасць раённых аддзелаў культуры і іх метадычных звенняў не вызначылі сваіх асабістых, характэрных і спецыфічных напрамкаў па стварэнні паўсюль адметных і запаветных фальклорна-этнаграфічных зон: скажам, у Любанскім раёне — ганчарных рамёстваў, Клецкім — ткацтва, Мядзельскім — бандарства, Лагойскім — лозапляцення. І гэта, нягледзячы на выключны ўзор спалучэння традыцыйнага і сучаснага ва ўсім суквецці народнай творчасці ў Вілейскім раёне, дзе пабывалі амаль усе кіруючыя асобы сістэмы нашага міністэрства, упраўленняў і аддзелаў культуры. Але, як кажуць, паказальны ўрок не ўсім пайшоў на карысць. Толькі прадстаўнікі Крупскага раёна, як тыя дбайныя і творчыя вучні, запазычылі ў вілейцаў самыя "элітныя зярняты" народнай творчасці і, як шчырыя сейбіты, унеслі іх у сваю глебу. І рунь пайшла ў рост.

А на Вілейшчыне гатовы ў любы час падзяліцца "расадай" з усімі, каму па сэрцы і душы бацькоўская спадчына.

**А.СУРЫНОВІЧ,**
**намеснік дырэктара Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці**

СІТУАЦЫЯ

# НОВЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў КУРАПАТАХ

На мінулым тыдні надумала я наведаць Курапаты. Напачатку нічога асаблівага не заўважыла — і крыж велічна ўзнімаўся ўгору, і ручнік на крыжы гойдаўся па ветру, і кветкі ля крыжа ляжалі, амаль зусім свежыя. Таксама памятная шыльда, якую пару гадоў назад нехта спрабаваў знішчыць, была на сваім месцы. Тады я пайшла на ўзвышша да памятнага каменя. Там таксама свежыя кветкі — усё белыя гваздзікі ды хрызантэмы. Я пайшла ў глыбіню лесу, туды, дзе некалі праводзілі першыя раскопкі і дзе людзі ставілі свечкі над ямамі. Адну такую сімвалічную магілу я даглядаю і заўсёды да яе прыходжу.

Аднак, як толькі я ўвайшла направа ад каменя ў лес, дык проста спынілася ад жаху, бо літаральна за некалькі метраў ад лясной сцежкі ўзвышалася груда, здаецца, толькі што выкапанага жоўтага пяску. Далей я ўбачыла разрытую яму і дробныя костачкі, рассыпаныя па жоўтым пяску.

Проста пад сваімі нагамі я знайшла пару мужчынскіх туфляў жоўтага колеру. Адзін туфель быў патоўчаны — відаць, рабаўнікі яго даследавалі, а другі быў з прыкметнай формай у выглядзе "факстрота", які насілі ў трыццатыя гады.

На дне ямы, якая была неглыбокаю, ляжалі яшчэ дзве пары абутку. Свежая яма была прыблізна адзін метр у глыбіню. Відавочна, не знайшоўшы нічога болей у гэтай магіле, рабаўнікі далей капаць не захацелі.

А дзе падзеліся чарапы людскія ды вялікія косці рук і ног чалавечых? Як вядома з апавяданняў жыхароў суседняй вёскі, па вайне ў Курапаты прывозілі салдатаў, якія выбіралі з пахаванняў людскія косці, складалі іх на грузавікі ды вывозілі з Курапацкага лесу ў невядомым напрамку.

Падобныя рэшткі замучаных у Курапатах людзей я бачыла некалькі гадоў таму, калі з сябрамі хрысціянскай злучнасці "Курапаты" даводзілася засыпаць таксама разрытую рабаўнікамі вялікую магілу (тым разам у гушчары лясным, налева ад памятнага каменя на ўзгорку). Таксама там на вялікай плошчы былі рассыпаны дробныя людскія костачкі. Адных рэбраў была цьма. Адна лапатка, костачкі пазваночніка... і аніводнай вялікай косці ног і рук. Відаць, што вялікія косці лягчэй збіраліся і вывозіліся. Але ў гэнай яме на дне ляжаў даўжэзны бот, а каля бота — чэрап людскі. Затым, засыпаючы яму, я знайшла каля сваіх ног яшчэ адзін чэрап людскі. Ён быў зверху раструшчаны, і немагчыма было разгадаць, куды яму куля трапіла. Сківіцы былі адарваныя. Я ўзяла ў свае рукі гэтыя сківіцы ды намагалася разгадаць, у якім веку быў гэты няшчасны чалавек, костачкі якога мы збіраем і засыпаем.

Сківіцы былі вялікія, моцнай пабудовы. Ад зубоў заставаліся толькі рэшткі, ды і тыя былі спарахнелыя. Адным словам, забіты чалавек меў не меней 55 — 65 гадоў. То для чаго было патрэбна забіваць старога, якому і без таго жыць заставалася нямнога? Можа, баяліся, каб стары чалавек не распавядаў маладзейшым аб даўнейшым часе, калі жыць было спакайней ды сыцей? Мы засыпалі гэтую магілу ў вячорным змроку, аднак, усё роўна, час ад часу знаходзілі ў пяску, акрамя костачак, розныя "прэзенты" ў выглядзе паламаных старасвецкіх акуляраў, расчосак ды іншых дробязей штодзённага ўжытку. Я знайшла яшчэ рэштку чорнага камаша з вельмі мяккай скуры і з нізкім, падобным на мыс, абцасам. Другі абцас быў знойдзены па іншы бок магільнай ямы.

Яму тую мы засыпалі, упарадкавалі. Але мяне па-ранейшаму непакояць паўтараныя праяў вандалізму. Непашана да нябожчыкаў — найвялікшы грэх на душу чалавека, і не можа лічыцца той чалавекам, хто здзекуецца з людскіх астанкаў, шукае для сябе здабычу ў чужых касцях. І яшчэ нядобра, што лес Курапацкі рабуецца. Высокія, прыдатныя для будаўніцтва, сосны ды елкі павырасталі на касцях замучаных людзей, то і няхай бы яны там раслі праз увесь век ды спявалі на ветры над забітымі свае адвечныя песні. Аднак людзі, чамусьці, не хочуць шанаваць сваіх продкаў. Можа, гэта зрабілі прыезджыя, чужынцы, для якіх няма нічога святога. У блізкасці да Бараўлянаў хутка вырас цэлы пасёлак дачны, а Курапаты — блізка. Вось і "стараліся" для пабудовы сваіх дачаў усялякія "разумныя людзі".

Помню, многа ляжала спілаванага лесу ў Курапатах, а начальства на скаргі адпісала, што лес пілаваўся толькі для ачысткі. А тут ішлі двое і, як убачылі мяне, адразу першы з пілою схаваўся ў лесе. Тады я пераняла другога ды пачала яму выгаворваць, як гэта не сорамна зняважаць замучаных людзей. А той заенчыў: "Гэта не я! Гэта мяне начальства маё прымушае!" —"А хто твае начальства?" — спытала я яго тады. "Лясхоз!" — заенчыў, ледзь не плачучы, рабочы чалавек.

Дык вось, значыцца, з ведама і "блаславення" лясгаса Курапаты нішчыліся. Але ж у гэтым вінаватыя не прызнаюцца. Напілавалі, зарабілі, а вінаватых не пакаралі. Так працягваецца і сёння.

А яшчэ ў Курапатах нішчаць бярозавыя прыгожых крыжы. Застаўся толькі металічны, што паставілі палякі, але і ад яго шыльду адарвалі.

Даўно ўжо час надаць Курапатам статус могілак і адпаведна ўсё там упарадкаваць. Хто за Курапаты ў адказнасці? Гарсавету неабходна аб Курапатах паклапаціцца. Аб чым жа думаюць бацькі горада? Прашу абараніць ад знявагі замучаных людзей.

З пашанай

**Алена ШАРЭПА-ЛАПІЦКАЯ,**
**сябра злучнасці "Курапаты"**

# ІНТЭГРАЦЫЯ ПРАЗ КУЛЬТУРУ

**Выступленне на міжнародным семінары "Культурная палітыка і еўрапейскае культурнае супрацоўніцтва"**

Калі ў 1949 годзе ў толькі што вызваленай ад фашыстоўскага гвалту Еўропе дзесяць дзяржаў аб'ядналіся ў Савет, каб гарантаваць мір і правы чалавека на іх тэрыторыі, мала хто ўспрыняў гэта ўсур'ёз і мала хто прагназаваў яму доўгую будучыню. Але на сённяшні дзень Савет Еўропы з афіцыйным цэнтрам у Страсбургу аб'ядноўвае звыш трыццаці краін і стаў самай уплывовай і прадстаўнічай міжурадавай арганізацыяй, якая кансалідуе высілкі народаў Еўропы па ўсіх накірунках жыццядзейнасці дзяржаў: ад правоў чалавека, эканамічнай палітыкі, культуры і мастацтва, адукацыі, спорту, аховы гістарычных помнікаў, масмедыя і да распрацоўкі стратэгіі супольнай міждзяржаўнай дзейнасці, агульнага паступовага руху наперад, захавання кожнай з еўрапейскіх культур.

Уступленне ў Савет Еўропы магчыма толькі пры пэўным узроўні ментальнасці нацыі, наяўнасці ў дзяржаве дэмакратычнага ўстойлівага ўрада, які можа забяспечыць ахову і рэалізацыю правоў чалавека, гуманнасці і павагі да ўсіх народаў. Беларусь зрабіла першы крок — далучылася да еўрапейскай культурнай канвенцыі: 18 кастрычніка мінулага года ў Страсбургу — штаб-кватэры Савета — Я.Вайтовічам, міністрам культуры нашай краіны быў перададзены Катрын Лялюм'ер, генеральнаму сакратару Савета, адпаведныя дакументы, падпісаныя нашым прэм'ер-міністрам. Я прысутнічала пры падпісанні і ўручэнні і радавалася гэтаму разумнаму кроку наперад. Прайшоў год. Нашыя адносіны развіваюцца, мы атрымліваем інфармацыю аб падзеях у свеце, карыстаемся падручнікамі і дапаможнікамі, якія дасылае Савет нашаму універсітэту, атрымліваем запрашэнні на семінары і трэнінгі, якія праводзяцца Саветам. Мы вельмі ўдзячны за гэта і рады паступоваму развіццю нашых адносін.

Беларускі 12-мільённы народ, нягледзячы на генацыд у кожным з апошніх стагоддзяў, захаваў сваю мову, сваю культуру, даў славянскаму свету першую дэмакратычную хартыю палітычнай пабудовы дзяржавы, другую біблію, арыгінальную літаратуру і мастацтва і змог рэалізаваць шматвекавую мару свайго старажытнага народа — стварыць незалежную дэмакратычную дзяржаву.

Інтэграцыя ў Еўропу якраз і магчымая праз культуру. Культура нацыі — мерка цывілізацыі народа і адначасова генетычная повязь пакаленняў. Яна ўяўляе складаную шматаспектную структуру, якая ахопліває ўвесь духоўны свет народа, яго самасвядомасць, сукупнасць пераканання і поглядаў. Культурны працэс заўсёды стваральны, і таму ад узаемадзеяння культур заўсёды выйграюць усе народы. Наблізіцца адзін да аднаго, узаемапаразумецца, узбагаць у сябе ўсё лепшае, што было назапашана нацыянальнымі традыцыямі, — гэта ёсць вялікая мэта стваральнасці культуры. Працэс збліжэння культур вядзе да ўмацавання ўнутраных, духоўных сувязяў, дзякуючы якім кожная нацыянальная культура павышае магчымасць выявіць духоўныя спадчыванні не толькі свайго народа, але і далучыцца да культуры вечнасці — культуры адзінага чалавечага грамадства.

Што для гэтага неабходна? На мой погляд, у першую чаргу:

Стварэнне каардынацыйнакансультатыўнага цэнтра па сувязях з Саветам Еўропы, які будзе займацца падрыхтоўкай інфармацыйных дакументаў аб нашай сістэме адукацыі, культуры, спорце, масмедыя і інш. Ён будзе кансалідаваць высілкі ўсіх устаноў культуры і адукацыі па ўваходжанні ў еўрапейскае супольніцтва. Пры гэтым мусіць быць прызначана адна асоба для правядзення сістэматычнай бесперапыннай працы па двухбаковых сувязях, абмену інфармацыяй на ўзроўні дзяржавы, камітэтаў, падкамітэтаў, некірункаў.

Экспертыза юрыдычных і заканадаўчых дакументаў па культуры і адукацыі, іх дэмакратызацыі і адпаведнасці еўрапейскім стандартам, бо шляхі распрацоўкі такіх дакументаў Еўропай ужо пройдзены і неабходна выкарыстаць яе вопыт у іх стварэнні.

Ліцэнзаванне навучальных планаў, праграм усіх ступеняў навучання з мэтай далейшага прызнання дыпломаў і атэстатаў навучэнцаў з іх далейшай экспертызай. Гэта неабходна для вольнага перамяшчэння навучэнцаў і студэнтаў па Еўропе і рэалізацыі іх права на навучанне.

Падрыхтоўка ў рамках Савета падручнікаў, дапаможнікаў, метадычнай літаратуры для навучання беларусаў на еўрапейскім узроўні.

Сумеснае правядзенне семінараў, трэнінгаў для выкладчыкаў, навукова-практычных канферэнцый, творчых майстэрняў, навучанне ўсіх катэгорый працаўнікоў і трансляцыя культуры.

Распрацоўка сумесных навуковых праектаў, такіх як "Еўрапейскія культурныя шляхі", "Культурная палітыка рэгіёнаў", "Даследаванне рэгіянальнай культуры і мастацтва", "Адукацыя ў дэмакратычным грамадстве" і інш.

Думаецца, што Савет Еўропы дапамога нам у гэтым.

**Ядзвіга ГРЫГАРОВІЧ,**
**рэктар Універсітэта культуры**

# БЕЛАРУСКІЯ ІНТАРЭСЫ — АД БАЛТЫКІ ДА ЧОРНАГА МОРА

***Летась Беларусь далучылася да Канвенцыі па спрыянні развіццю культуры, адукацыі, навукі і інфармацыі ў Чарнаморскім рэгіёне. Каб падпісаць гэты дакумент, дзяржаве не абавязкова мець выйсце да мора.***

***Пачатак гэтага кантакту паклаў Першы Міжнародны фестываль мастацтваў Чарнамор'я, які праходзіў у Сочы. Нашу краіну тут прадстаўляў фальклорны калектыў "Купалінка". Яго-ныя канцэрты прайшлі з вялікім поспехам і атрымалі высокую адзнаку гледачоў. Паралельна адбыліся шматбаковыя перамовы міністраў культуры краін-удзельніц чарнаморскай канвенцыі.***

— Такія сустрэчы адкрываюць новыя перспектывы ў галіне культурнага і інфармацыйнага супрацоўніцтва нашай краіны з Украінай, Расіяй, Турцыяй, Малдовай, Азербайджанам, Румыніяй, Балгарыяй, Грузіяй і Албаніяй, — сказаў міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч. — У прыватнасці, падрыхтавана пагадненне з Турцыяй. З Украінай мы ўжо супрацоўнічаем. У снежні гэтага года ў нас запланаваны Дні культуры гэтай краіны. На жаль, з Расіяй у нас такога пагаднення няма. Пакуль дзейнічаюць толькі двухгадовыя ўзгадненні аб культурным супрацоўніцтве. Вось, да прыкладу, у красавіку наступнага года павінны прайсці Дні беларускай культуры ў Расіі. Трэба адзначыць, што менавіта з гэтай краінай лягчэй супрацоўнічаць, бо ў Расіі пры Міністэрстве культуры ёсць спецыяльная структура, якая займаецца краінамі СНД і фінансуе падобныя мерапрыемствы. Так сама расійскім бокам была аплочана арганізацыя маскоўскіх канцэртаў ансамбля "Песняры". Па гэтаму ж прынцыпу плануюцца гастролі купалаўскага тэатра ў Томску, бо трупа нашага нацыянальнага тэатра працавала там падчас вайны.

*Вынікам "чарнаморскіх перамоў" міністраў культуры стануцца самыя разнастайныя сумесныя акцыі — абмены творчымі калектывамі, выставы, фестывалі. Прынамсі, знайшла падтрымку ініцыятыва Анатоля Бутэвіча правесці ў наступным годзе міжнародны фестываль дзіцячай творчасці, магчыма, і на Беларусі. Была заслухана і абмеркавана праблема выдання перакладной літаратуры. Калі ў нашай краіне гэтая праца вядзецца актыўна, то беларускую літаратуру за мяжой перакладаюць радзей.*

— Беларусь пасяхова "ўпісалася" ў Чарнаморскі рэгіён, — лічыць міністр культуры краіны. — Хоць многія замежныя журналісты, якія працавалі на фестывалі, не зусім зразумелі нашу прысутнасць на ім. Я ж толькі хачу падкрэсліць, што культура ўвогуле не павінна мець межаў. Культурныя кантакты развіваюцца незалежна ад месца знаходжання дзяржаў. І калі нам прапанавалі ў свой час падпісаць Чарнаморскую канвенцыю, я мяркую, што гэта лішні доказ таго, што Беларусь і яе культуру ведаюць у свеце. Наш прарыў да Чорнага мора не азначае, што мы не будзем супрацоўнічаць з Балтыяй альбо Цэнтральнай Еўропай. Зразумела, на гэтыя кантакты і супрацоўніцтва пойдуць немалыя сродкі, але замыкацца ўнутры краіны з-за іх дэфіцыту нельга. Трэба, каб беларусы як мага болей ведалі культуру і традыцыі іншых краін, і, наадварот, каб нас ведалі ў свеце. А грошы, пры жаданні, заўсёды можна знайсці.

**Віктар КУКЛОЎ,**
**спецыяльна для газеты "Культура"**

КАНТРАМАРКА

# ДЗІВОСНЫЯ СНЫ ВІТАЛЯ КАТАВІЦКАГА

***Тэатралы звярнулі ўвагу: у сталіцы нашай краіны ўсё часцей і часцей ладзяцца гастролі труп з Заходняй Еўропы, найперш з Нямеччыны. Гэта — новая прыкмета культурнага жыцця Беларусі. Аднак гастролі — толькі адзін бок супрацоўніцтва творцаў розных краін. Адбываецца і абмен пастаноўшчыкамі спектакляў, што істотна ўплывае на кантакты розных тэатральных культур. Нядаўна з Нямеччыны вярнуўся галоўны рэжысёр Маладзёжнага тэатра Беларусі Віталь Катавіцкі. У Мангеймскім тэатры "Шнабель" ён паставіў камедыю "Сон у летнюю ноч" У.Шэкспіра. З гэтай нагоды і гутарыць з рэжысёрам Віталем КАТАВІЦКІМ крытык Уладзімір МАЛЬЦАЎ. Але размова зайшла далей "нагоды"...***

**Катавіцкі:** Мангейм — буйны горад на поўдні Нямеччыны. У ім і знаходзіцца адзін з двух нацыянальных тэатраў гэтай краіны. Нацыянальны тэатр Мангейма мае стогадовую традыцыю. У ім калісь у якасці загадчыка літаратурнай часткі працаваў Фрыдрых Шылер. Тэатр складаецца з трох труп — опернай, драматычнай і Маладзёжнага тэатра "Шнабель" (у перакладзе на нашу мову — "Дзюба"). Кожная трупа мае самастойную сцэну. Немцы — тэатральны народ, у тэатр ходзяць з ахвотаю. Вылучыць у нямецкім тэатры нейкі адзіны напрамак немагчыма, п'есы ставяцца ў розных стылях, творчых манерах. Многія класічныя творы прынцыпова асучасніваюцца. Так, я паглядзеў Шэкспіраву камедыю "Дванаццатая ноч", дзе ўсе персанажы былі апранутыя ў сучасныя касцюмы, а само дзеянне адбывалася ў нейкім бязмежным, глухім стэпе. Уразілі неабмежаваныя пастановачныя магчымасці нямецкага тэатра. У кожным спектаклі — вялізныя дэкарацыі на ўсё люстэрка сцэны; яны ж змяняюцца ледзь не праз кожныя дваццаць хвілін. З аднаго такога спектакля нашы рэжысёры маглі б зрабіць пяць. Вельмі высокая пастановачная культура. Немцам уласціва пачуццё меры, густу: усё прадумана і выраблена дасканала. А вось акцёрскае



мастацтва пакідае жадаць лепшага. Замест дыялога і ўзаемадзеяння артысты разыгрываюць нешта накшталт эмоцый. Ілжывая тэмпераментнасць дысануе з цудоўнымі сцэнаграфічнымі вырашэннямі.

**Мальцаў:** Пастановачныя традыцыі камедый Шэкспіра надзвычай багатыя. Часцей іх ставілі ў святочна-карнавальным стылі. У апошнія гады, калі свет захапіўся астралогіяй і ведызмам, акультнымі вучэннямі, снабачаннямі, мы пачынаем па-новаму разумець мастацкія пласты п'есы. У камедыі "Сон у летнюю ноч", здаецца, ёсць усё, пра што разважае сучаснік. І тым не менш, на нашых сцэнах гэтая камедыя не з'яўляецца. Таму цікава даведацца пра тваю трактоўку п'есы.

**Катавіцкі:** Дзівосныя сплященні нябеснага, зямнога і падземнага светаў, — бадай што, самае цікавае ў гэтай п'есе. Зразумець іх узаемасувязі — вельмі складаная задача, і кожны рэжысёр яе вырашае па-свойму. Гэтую п'есу я ставіў паводле літаратурнага варыянта швейцарскага драматурга Біятфея, які вылучыў з розных сюжэтных спляценняў п'есы ўсяго толькі адну завершаную лінію пра дзве маладыя пары, якія збягаюць у казачны лес, дзе і адбываюцца з імі розныя псіхалагічныя метамарфозы. Галоўнай гераіняй спектакля стала Гермія, якая прайшла з годнасцю ўсе выпрабаванні і здолела захаваць сваё каханне. Мой спектакль скіраваны супраць марнатраўства пачуццяў, ён пра беражлівае стаўленне чалавека да сваіх сапраўдных, чыстых пачуццяў. Спектакль пачынаўся з таго, што нейкая сучасная Гермія вярталася дахаты і перажывала, што яе сябра Лізандра яшчэ няма. Яна хвалявалася, званіла да сяброўкі Алены. Ахопленая прадчуваннямі бяды, клалася на ложак, а каб не заснуць, разгортвала томік Шэкспіра і, прачытаўшы маналог пра чароўную кветку са "Сну ў летнюю ноч", засынала. Мастак Стэфан Свобадан змайстраваў на сцэне чорны ложак з паралонавых сегментаў, які лёгка разбіраўся і пераўтвараўся ў лес, горы, рачулкі, а алькоў, уздымаючыся над ложкам, рабіўся небам. Сцэнамі пакоя былі вялікія пластыкавыя люстэркі.

**Мальцаў:** Дык ты ставіў сны Герміі?

**Катавіцкі:** Менавіта. Шэкспіраў сюжэт матэрыялізаваўся ў яе снах, фантазіях. У снах Гермія пражывала тыя пачуцці, якія адчувала ў рэальнасці, і пражывала ў дзівоснай, ірэальна-фантастычнай форме. Мяжа паміж рэальнасцю і сном паступова сціраецца. Каханне нясе з сабою і эратычныя кашмары, і духоўныя пакуты, і раздваенне пачуццяў.

**Мальцаў:** Цікава, што і твая апошняя праца ў Мінску, спектакль пра Сальвадора Далі, называецца "Яго сны". Значыць, у абедзвюх пастаноўках разважаеш пра перажыванні чалавека шляхам увасаблення фантастычных вобразаў уяўленняў і сноў. Мастацкі свет пісьменніка, здаецца, цябе цікавіць толькі ў той ступені, у якой напісанае ім дае матэрыял для сцэнічных фантазій паводле сюжэтаў, тэкстаў, думак, вобразаў. Ты, на мой погляд, свядома ломіш існуючую літаратурную структуру твора, дапісваеш дыялогі да класічнага тэксту, сам ствараеш рэжысёрскую кампазіцыю з дзённікаў. Матэрыялізацыя сноў паводле ўласнага сцэнарыя — гэта для цябе праграмна?

**Катавіцкі:** Адкажу на гэтае пытанне цытатай з Антаніна Арто, паколькі думка, ім выказаная,



блізкая і да майго разумення тэатра: "Усё, што належыць свету туманнай і магічнай сілы сноў, усе цёмныя пласты свядомасці, — гэта акурат і ёсць тое, што ў найбольшай ступені займае наш розум, займае яго настолькі, што мы прагнем убачыць усё гэта ў ззянні і трыумфальным бляску на сцэне, нават калі гэта нас знішчыць і зробіць пасмешышчам".

**Мальцаў:** Але сны — індывідуальныя. Мужчынская і жаночая прырода мыслення — розныя, лад пачуццяў, характар уяўленняў — таксама. І, імкнучыся ўвасобіць чужыя сны, ці не спрашчаем або перакручваем, хай нават міжволі, унутраны свет іншых людзей? Ці няма нават у самой спробе зазірнуць у падсвядомую сферу іншай асобы пэўнай абстрактнасці і штучнай зададзенасці? Інакш кажучы, ці не прыпісваем мы ўласныя фантазіі іншым?

**Катавіцкі:** Таму і займаюся рэжысурай, бо дзякуючы сваёй прафесіі магу падзяліцца сваім светаўспрыманнем з людзьмі. Натуральна, падчас пастаноўкі спектакля я як рэжысёр павінен пранікнуць у характар героя-маналагіста, адчуць яго, зразумець і адносна сябе логіку яго паводзінаў. Леў Талстой, да прыкладу, выдатна перадаў пачуцці Наташы Растовай. Глыбіня пранікнення ў таямніцы чужой душы залежыць ад ступені таленавітасці пісьменніка, рэжысёра, акцёра. У сваіх спектаклях я гавару пра агульначалавечыя праблемы. Усе кахаюць аднолькава, але форма выказвання пачуцця розная, у залежнасці ад характару чалавека, сітуацыі, акалічнасцей. Іншая справа — як глыбока мы хаваем свае пачуцці нават ад саміх сябе, баючыся выявіць іх і апранаючы маску. Усё адно, нават калі мы зачыняемся на замок, мара пра вялікае чалавечае пачуццё тлее ў кожным з нас. Вось гэтую іскрынку — душэўны рух — мне заўсёды хочацца праявіць, узбуйніць у любых сцэнічных фантазіях.

**Гутарыў і запісаў Уладзімір МАЛЬЦАЎ**

*На здымках:* сцэны са спектакля "Сон у летнюю ноч" У.Шэкспіра (Мангеймскі тэатр "Шнабель", рэжысёр Віталь Катавіцкі).

# "ЛЕПШАЯ Ў ТЭАТРЫ АДЭТА..."

Імя Святланы Гарбуновай для беларускіх балетаманаў параўнаўча новае. Толькі два гады прайшло пасля таго, як маладая артыстка скончыла Беларускае харэаграфічнае вучылішча, дзе яна займалася ў педагогаў В.Прохаравай і М.Пятровай.

Ужо ў канцы першага свайго сезона ў тэатры Святлана звярнула на сябе ўвагу гледачоў, выступіўшы ў галоўнай партыі балета "Васіліса Прыгожая" на музыку А.Берліна. Спектакль гэты стварыўся сумеснымі намаганнямі харэаграфічнага вучылішча і балетнай трупы тэатра. Некалькі вядучых партый — Васілісы, Івана і Кашчэя выконвалі прафесійныя артысты, а астатнія ролі — навучэнцы харэаграфічнага вучылішча. Магчыма, на прэм'еры спектакля дэбютантцы крыху перашкаджала хваляванне, і ў гэтым сцэнічным партрэце яшчэ не было той абсалютнай свабоды, якая бывае ўласцівая майстрам, але Васіліса Святланы Гарбуновай здавалася ўвасабленнем лепшых рысаў славянскага характару, яго лірызму, душэўнай тонкасці, светлай пранікнёнасці. Адухоўлены танец балерыны кранаў за душу. І думалася тады, што менавіта жаданне вызваліць прыгажосць ад злых чараў, адчуваць побач з сабой жывую душу прымушала Івана выпраўляцца ў далёкае падарожжа і змагацца з неадольным Кашчэем... Задумлівая карагоднасць, напеўнасць танцавальнага малюнка партыі вельмі пасавала індывідуальным асаблівасцям пластыкі С.Гарбуновай. Для маладой артысткі, нядаўняй выпускніцы, такая партыя і такое яе выкананне было несумненнай удачай.



Услед за дзіцячым спектаклем паступова збіраліся ў рэпертуары балерыны сольныя партыі — Вулічная танцорка Мерсэдэс у "Дон Кіхоце", трыо ў "Карсары" і падэ-труа ў "Лебядзіным возеры", куртызанка ў "Спартаку". Мінулы сезон быў асабліва плённым для Святланы. Яна выканала шэраг вядучых партый у рэпертуары тэатра. Гэта Адэта ў "Лебядзіным возеры", Медора ў "Карсары", фея Бэзу ў "Спячай красуні", Каханая ў "Карміна Бурана". (Апошнюю партыю маладой артыстцы было даручана выконваць у спектаклі, на якім прысутнічала Хілары Клінтан, жонка амерыканскага прэзідэнта.) Зразумела, усё гэта партыі, над якімі можна працаваць усё жыццё, і беларускім балерынам, больш вопытным за Святлану Гарбунову, ёсць што ўдасканальваць у сцэнічных партрэтах сваіх гераінь. Але я згадваю словы, пачутыя з вуснаў народнай артысткі РБ педагога Таццяны Яршовай, якая досыць часта працуе над ролямі са Святланай:

— На адной з рэпетыцый, калі побач сядзелі некалькі артыстак, выканаўцаў партыі Адэты, я сказала сваім калегам: "Дзяўчаты, не крыўдуйце, але Света ў нас у тэатры зараз лепшая Адэта..." Памятаю, што ў першых яе спектаклях "Лебядзінага возера" было столькі эмацыянальнай шчырасці, душэўнай разняволенасці... Спецыялісты — крытыкі і балетазнаўцы — усё часцей і ўсё больш занепакоена гавораць пра тое, што балет перастае быць мастацтвам, даследаваннем чалавечай душы і ўвасабленнем духоўнага свету асобы, а ўсё часцей ператвараецца ў нешта, вельмі блізкае да цырка: трук, яшчэ трук, а потым — апладысменты! Рэдкія артысты ўмеюць настроіць цябе на хвалю ўласнага душэўнага ладу, няспешнага, пазбаўленага дробнай сумятні. У пластыцы Святланы Гарбуновай, у яе ролях Адэты, Медоры, феі Бэзу, Каханай (хоць належаць яны да розных эпох і розных харэаграфічных стыляў) я адчуваю светлую прыгажосць, праменістую ўсмешку, велічнае высакародства. Яе танец, нават у даўно вядомых класічных спектаклях, выяўляе аблічча менавіта славянскай душы — чулай, шчырай, трапяткой, пазбаўленай імкнення ўразіць знешнімі эфектамі.

... З адкрытых дзвярэй рэпетыцыйнай залы накатваецца хваля музыкі, пяшчотнай, хвалюючай, Боскай... Гэта варыяцыя феі Бэзу са "Спячай красуні". Святлана Гарбунова рэпеціруе сваю ролю з Таццянай Яршовай, якая рыхтавала гэты балет са знакамітай І.Калпаковай, пастаноўшчыкам шэдэўра М.Пеціпа ў Мінску. Напэўна, у гэтым ёсць нешта сімвалічнае, калі маладая артыстка, у якой усё творчае жыццё яшчэ наперадзе, выконвае партыю феі дабра — увасабленне вясны, маладосці, шчасця...

Спачатку вызвалілася канцэртмайстар, потым педагог-рэпетытар, а Гарбунова яшчэ заставалася ў зале. Нарэшце, выйшла і яна, з ворахам туфляў, балетным пачкам, бязмежна стомленая, у вачах амаль што стаялі слёзы... Бо пакуль не атрымліваецца як хочацца, як трэба...

Дзіўна, маючы магчымасць часта назіраць за артыстамі ў час рэпетыцый і пасля іх, даўно-даўно не бачыла (з часоў зусім маладой яшчэ Дашкевіч), каб нехта выходзіў з рэпетыцыйнай залы ў роспачы. Звычайна — з жарцікамі, задаволеныя зробленым... Але, сапраўды, хто не ведае глыбіні адчаю, той не ведае і зіхатлівых творчых вяршынь.

Запомнім гэтае імя — Святлана Гарбунова і будзем сачыць за яе мастакоўскім ростам. І спадзявацца, што творчыя вяршыні наперадзе...

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

*На здымку:* С.Гарбунова і А.Мартынаў у па-дэ-дэ з балета "Карсар". Фота з архіва артысткі.

ПРАЗ ГАДЫ

## Аляксандр ЛУКАШУК

# ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА, або ГІСТОРЫЯ ЯНКІ ФІЛІСТОВІЧА

### Дакументальная радыёп'еса

*(Працяг. Пачатак у №№ 41 — 45)*

**Суд:** Падсудны Філістовіч, трыбунал лічыць дастатковымі Вашыя паказаньні на дадзеным этапе. Пераходзім да апытаньня сьведкі Трапша. Сьведка, паведаміце сваё імя, месца і год нараджэньня, пасаду, займаемую на момант знаёмства з грамадзянінам Філістовічам.

**Трапш:** Трапш Рыгор Міхайлавіч, нарадзіўся ў 1917 годзе ў сяле Ацы Гадаўскага раёну Абхазіі. У органах дзяржбясьпекі служыў з 1937 году. Пасьля заканчэньня вышэйшай сьледчай школы МДБ СССР быў накіраваны ў Менск. Зьяўляўся намесьнікам начальніка 2-га аддзела сьледчай часткі Міністэрства дзяржбясьпекі БССР і з 10 верасьня 1992 году па 17 студзеня 1953-га вёў справу Філістовіча Івана Андрэевіча ў якасьці сьледчага. Падпалкоўнік дзяржбясьпекі ў адстаўцы.

**Суд:** Таварыш Трапш, у кнізе вядомага пісьменніка Макара Пасьлядовіча "Па воўчых сцежках", напісанай "па расказу палкоўніка дзяржбясьпекі Каленіка" — гэта хіба ваш псеўданім, ярка паказаны гераізм беларускіх чэкістаў, якія, рызыкуючы жыцьцём, праніклі ў банду Філістовіча, арыштавалі яго і такім чынам выратавалі дзесяткі тысяч людзей ад дыверсійных акцый. Аднак, па вядомых прычынах, аўтар не мог тады раскрыць усе дэталі аперацыі. Раскажыце, калі ласка, як гэта адбывалася.

**Трапш:** Кніжку Пасьлядовіча я бачыў — поўная лухта. Аўтар ніколі са мной не сустракаўся... І ўвогуле, на сьлед Філістовіча выйшлі не ў Менску, а ў Маскве. Да сораму беларускіх чэкістаў, ён цэлы год жыў у падпольлі. Працаваў. У Маскве, падчас перлюстрацыі пошты, выклікалі падазрэньне пісьмы за мяжу, напісаныя дзіцячым почыркам. Паводле зьместу вызначылі, што аўтар недзе тут, на Беларусі, далі аператыўку. Тады ўжо пачало працаваць Маладэчанскае ўпраўленьне дзяржбясьпекі, а потым Менск падключыўся.

**Суд:** У якім стане пасьля затрыманьня і зьмяшчэньня ў ізалятар МДБ знаходзіўся Філістовіч?

**Трапш:** Вельмі дрэнным, бо яго затрымалі з дапамогай снатворнага. Ён шмат перажыў за час, калі ішоў да мяжы, а яго па пятах перасьледавалі. Ён адарваў і выкінуў ампулу з атрутай, каб не спакусіцца і не прыняць. Баяўся, што ў крызісны час не ўтрымаецца і пакончыць з сабой. Думаў да канца супрацiўляцца. Я павінен сказаць, што ён вельмі цікавы чалавек, валявы хлопец, і нягледзячы на яго становішча перада мной, ён быў мне сімпатычны як чалавек. Першыя тры — чатыры дні запар я быў у дурацкім стане: выклікаў яго на допыт, гадзінамі глядзелі адзін на аднаго, і ён не адмыкаў нават губы, не казаў нічога, сядзеў — і ўсё. Задавай яму якія заўгодна пытаньні, і нічога. Нават дадзеныя пра сябе не хацеў паведаміць. І толькі на трэці ці чацьверты дзень ён адкрыў рот са словамі: "Што глядзіце, страляйце, страляйце!"

**Суд:** Вы вялі сьледства амаль пяць месяцаў, хаця законам прадугледжаны тэрмін у два месяцы. Ці былі ўжыты ўсе сродкі, каб паскорыць прызнаньне падсуднага Філістовіча?

**Трапш:** Спецметадаў да Філістовіча мы не прымянялі. З ім працавала абмежаванае кола людзей. Яго прозьвішча не ведала нават ахова, якая дастаўляла арыштаванага з камеры да мяне. Я казаў "прывядзіце нумар адзін, адвядзіце нумар адзін". Спачатку ён не гаварыў увогуле, але потым пачаў гаварыць і гаварыў, быццам, праўду. Амаль пяць месяцаў допытаў — гэта не я цягнуў, а Іван Андрэевіч Філістовіч. Ён сьведчаньні даваў порцыямі. Затрымка была з-за таго, чым ён займаўся ў Францыі. Допыты праводзіліся днём і ноччу, традыцыя была такая. Дзякуй Богу, я жыў праз дарогу. Пайду, некалькі гадзінаў пасплю, паем і назад. Для сьледчых гэта было прымальна: ніхто не перашкаджаў працаваць, засяродзіцца, некалькі гадзінаў гаварыць з чалавекам аб справе.

Мой кабінет быў на 4-м паверсе, вокны выходзілі на праспект Сталіна. Я яму паказваў, цьвердзіў, што ў нас усё ў парадку. Ён аднойчы ноччу з Маладэчна ў Менск прыязджаў, сувязь завязаць, але няўдала. Я яму сказаў, хочаце, пакажу Вам наглядна, праедзем па гораду? З вялікімі цяжкасьцямі, але начальства я ўгаварыў. У закрытай машыне сеў з ім побач, ззаду. Вазілі яго на трактарны, на аўтазавод.

**Суд:** На якой мове вёўся допыт?

**Трапш:** На рускай. Ён гаварыў па-руску, толькі часам падкідваў славечкі характэрныя. Толькі адзін эпізод быў трагікамічны. Яму прад'явілі расшыфраваныя пісьмы, якія ён пасылаў. У адным з іх быў такі тэкст: "У горадзе в.ш. войскаў, бачыў сам". Мы доўга расшыфроўвалі, што ж гэта такое, што гэта за горад такі "В.Ш." Не маглі знайсьці такі горад. Потым я шмат разоў яго дапытваў і кожны раз вяртаўся да пісьма, а ён рабіў выгляд, што не разумее, аб чым яго пытаюць. Нарэшце ён мне сказаў: "Вы каўказец, Вам гэта даравальна, але што, у вас тут няма беларусаў, якія б гэта расшыфравалі?" Ён напісаў, калі быў у Гародні, што "ў горадзе вельмі шмат войскаў, бачыў сам". Ох, колькі ў нас шуму было з-за гэтага! І ўсур'ёз усыпалі таму-сяму з нашых. А ён паздзекваўся, кожны раз сьмяяўся з нас.

**Суд:** Вы не памыліліся, калі казалі, што на Вас Філістовіч зрабіў добрае ўражаньне?

**Трапш:** Так, інтэлігентны, сціплы, харошы хлопец. Але фанатык. Фанатызм у дачыненьні да сваёй мовы, культуры, літаратуры. Мы тут не пасьпявалі кнігі яму даваць, ён іх проста праглынаў. У дачыненьні да насельніцтва не зрабіў нічога такога, наадварот, шкадаваў. Ён увесь час казаў "стогнуць", "мучаюцца і стогнуць". Ён умела працаваў, прыручаў гэтых зьвярэй, паліцэйскіх, у якіх рукі часаліся ўвесь час забіць каго-небудзь, абрабаваць, нават калі ён быў зь імі. Філістовіч іх пад дулам аўтамата стрымліваў. Марадзёрства забараніў катэгарычна — бясплатна нічога не браць. Пакуль у яго былі грошы, сто тысяч, увесь час плаціў: за мяса, за бульбу. А калі скончыліся — высачыў фінагентаў, і то, калі забіраў грошы, пытаўся, дзе іх асабістыя, а дзе казённыя, і ўзяў толькі дзяржаўныя. Адзін з банды рамень забраў у калгасніка. Філістовіч пабачыў ужо на стаянцы, і пад пагрозай, што расстраляе, прымусіў аднесьці назад і аддаць.

**Суд:** Разам з падсудным Філістовічам былі арыштаваны яго саўдзельнікі: Кулеш Пётр Іосіфавіч, Бялькевіч Андрэй Іронавіч, Філістовіч Аляксей, Петрусевіч Іван Кірылавіч, Крэнь Уладзімір Аляксандравіч, Скабей Анастасія Дамінікаўна, Мандрык Цімафей Сяргеевіч, Чарняўскі Радыён Міхайлавіч, Стахевіч Зінаіда Ілінічна, Пехур Іван Філіпавіч, Шадурскі Фама Данілавіч, Самаль Пётр Андрэевіч, Каляда Іван Фларыёнавіч, Дуровіч Юсцін Міронавіч, Буслаўскі Лявонцій Пятровіч. Іх справы вяліся іншымі сьледчымі, і ўсе яны панясуць пакараньне па ўсёй строгасьці савецкага закону.

На Вашу думку, сьведка Трапш, якога прысуду заслугоўвае падсудны Філістовіч, справу якога Вы вялі ў якасьці сьледчага?

**Трапш:** Гэта была самая буйная справа ў Беларусі, потым на ёй



вучыліся пакаленьні чэкістаў. Ведаеце, часта проста афарбоўку даюць справам: "агент", "разьведчык"... Але каб жывы разьведчык працаваў на працягу году, так акуратна, і столькі зрабіў — гэта рэдкасьць.

Філістовіч ведаў шмат каго з эмігрантаў, выпускаў часопіс "Моладзь", і ў нас зьявілася думка, не адразу, канешне, што можна выкарыстаць такі багаты матэрыял. Вярнуць яго па каналах, па якіх ён прыбыў, а потым зьвязацца і выкарыстаць яго ў якасьці агента. З самім Філістовічам пра гэта гаворкі не было. Спачатку мяне паслалі ў Маскву, каб узгадніць вярбоўку ў Міністэрстве дзяржбясьпекі. Але, здаецца, якраз арыштавалі Берыю, і там было не да нашай прапановы. Іван Андрэевіч Філістовіч, канешне, вораг, — але не махровы. Ён не зрабіў нічога такога, за што можна даць расстрэл.

**Суд:** Сьведка Трапш, Вы можаце быць свабодны. Падсудны Філістовіч, трыбунал лічыць судовае сьледства адносна Вашай варожай дзейнасьці як беларускага буржуазнага нацыяналіста, арганізатара замежнага антысавецкага падпольля, амерыканскага шпіёна і дыверсанта завершаным. Крымінальныя справы Вашых саўдзельнікаў, якія сталі на шлях здрады Радзіме, вылучаныя ў асобную судовую вытворчасьць. Вам прадстаўляецца апошняе слова.

**Янка:** Я вельмі шчасьлівы... Мо найшчасьлівейшы з усіх людзей таму, што Магутная сіла дала мне ласку сапраўднага каханьня да Бацькаўшчыны.

Я так мала жыў... І сёньня складаю падзяку Усявышняму, што ён мне не дазволіў блукаць у раздарожжы, дарма губляючы дарагі час, але з раньніх гадоў скіраваў на сапраўдную дарогу. Пакуль б'ецца маё сэрца і ў маіх жылах пералiваецца крывіцкая кроў — дагэтуль ня згасьне ў мяне сапраўднае каханьне да Бацькаўшчыны, а праз яго безаглядная і безгранічная аддаНасьць нашай справе.

Не з жалю, ранаў і болю — воля родзіцца толькі з крыві. Гэта наш крыж, і мы мусім данесьці яго да канца, таму што назад, калі б і хацеў вярнуцца — дарогі няма.

І цяпер я не жадаю нічога, як толькі быць найбольш карысным Маці-краіне, гэтага толькі я прашу ў Бога. Гэта мне шмат разоў ледзь не каштавала жыцьця, а таксама жыцьця маіх родных, бацькоў і сёстраў — але ж не толькі мне, гэтак жа і іншым братам. Калі Усемагутны патрабуе на адкупленьне Бацькаўшчыны найвялікшай і найдаражэйшай ахвяры ў жыцьці чалавека — жыцьцяў бацькоў, і на гэта паняволі мусіў бы згадзіцца. Я б не наракаў, а цешыўся тым, што гэта за адкупленьне волі братам, гэта найвялікшая ахвяра, якую Усемагутны не можа абмінуць без узнагароды, таму што Сын Яго даў прыклад ахвяры за братоў. Але, я думаю, гэта няпраўда, проста не веру — няўжо ж гэтых горкіх сьлёз і той нашай крыві яшчэ мала, каб нашаму гору прыйшоў канец?! Не! Горкія сьлёзы і кроў, якая безустаньня цякла і цячэ з нашага Народу, перапоўнілі нашы рэкі, і сёньня патрэбны адзін павеў ветру, каб гэта кроў, гора і сьлёзы выліліся з берагоў, топячы па дарозе ўсё тое, што прычынялася да гору Беларускага Народу. Гэта станецца немінуча, іначай і быць не можа!

Кожны народ перажывае свае хвіліны жыцьця, як радасныя, гэтак і цяжкія. Гісторыя асудзіла нас на цярпеньне, паняволеньне, амаль што асіміляцыю і сьмерць. Ужо нашы ворагі цешыліся, думалі — задушылі душу Беларуса, і цела належыць ім. Але ж як яны памыліліся. Пад попелам гараць вугалькі, іх разьдзьмухае вецер, і яны запаляць штучны дом, пабудаваны ворагам замест сапраўднага. Жывы чалавек не хоча, каб яго закапалі ў зямлю. Гэтае ж самае станецца з нашай Бацькаўшчынай. Няма такой сілы, якая б змагла затрымаць гэта жыцьцё. І масавае біялагічнае вынішчэньне нябачным дагэтуль спосабам не ў сілах будзе стрымаць жыцьцё Беларускага народу. Як пісаў наш паэт: "У віхры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасьцеш..."

Калі жыцьцё лёгкае — тады яно не цікавае, а чым болей небясьпечнае і цяжкое — тым больш заўзята перамагаецца. І няма сумліву, што, перажыўшы гэтыя цяжкія хвіліны, незадоўга і наша Бацькаўшчына будзе Усемагутным узнагароджана.

Кастусь Каліноўскі быў далей ад той мэты, за якую загінуў на шыбеніцы, чым мы, але гэта не значыць, што яго праца была дарэмная. Наадварот — ён застанецца сьвятым у памяці беларусаў, яго думкі і дзеяньні паказалі нам дарогу, якой мы павінны ісьці.

Я бязьмерна рады, што сваім жыцьцём змагу ўцэментаваць некалькі загартаваных цаглін у вялікі дом Беларускай сямы. І як сын гэтай сямы, я ня толькі жадаю аддаць сваё жыцьцё за яе таму, што абавязаны, а таму што гэта зьяўляецца маім ідэалам, імкненьнем і мэтай жыцьця. Аддаць сваё жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына, ёсьць найбольшае чалавечае, і тым больш маё, шчасьце...

Жыве Беларусь!

*(Далей будзе)*

# АЎСТРАЛІЙСКАЕ АДКРЫЦЦЁ БЕЛАРУСІ

Колькі месяцаў таму давялося сустрэцца з сям'ёй аўстралійцаў, якая прыехала ўпершыню на Беларусь разам з гуманітарнай місіяй Айца Яна Надсана. Яны прывезлі лекі для бальніц і дзіцячых дамоў. Пры знаёмстве высветлілася, што спадар Святаслаў Каржанеўскі, які быў у складзе місіі, зусім не выпадкова носіць такое пашыранае ў нас прозвішча, бо беларус па нацыянальнасці. Нарадзіўся ж ён у Баварыі ў 1946 г. у сям'і эмігрантаў з-пад Баранавіч. Потым бацька з трохгадовым сынам пераехалі на жыхарства ў Аўстралію, прынялі грамадзянства гэтай бясконца, здавалася, далёкай ад Беларусі краіны-кантынента, але сваіх каранёў не забылі. Спадар Каржанеўскі свабодна размаўляе пабеларуску. Пісаць яму цяжэй, бо ўся ягоная беларуская школа — бацькоўскі дом ды беларусысуседзі. Веданне мовы ў яго падмацавана і шырокай дасведчанасцю ў галіне культуры, гісторыі,— адсюль і гонар за сваё беларускае паходжанне. Спадар Каржанеўскі ў вольны ад наведванняў шпіталяў і дзіцячых дамоў час з цікавасцю пазнаёміўся з архітэктурай Мінска, наведаў музей драўлянай архітэктуры ў Строчыцах. Ён архітэктар па прафесіі. Архітэктурнаму майстэрству вучыўся ў Амерыцы, там, дарэчы, і ажаніўся.

Спадар Каржанеўскі меў сустрэчу з выкладчыкамі і студэнтамі Беларускай Акадэміі мастацтваў, у час якой прысутныя мелі магчымасць азнаёміцца з ягонай творчасцю. Пэўныя адкрыцці зрабіў для сябе на Беларусі і сам спадар Святаслаў. Пасля наведвання музея ў Строчыцах ён сказаў, што такія моцныя ўражанні меў толькі падчас вывучэння ў Японіі найстаражытнейшых драўляных храмаў. Наша драўляная архітэктура ўражвае гарманічнасцю, канструкцыйнасцю, яснасцю.

Потым было знаёмства з Мінскам. Госця цікавілі і старыя вулкі Верхняга горада, і пасляваенная забудова. Уважлівым вокам ён адзначаў вартасць архітэктуры не толькі з фасада, але і з боку дворыкаў. На ягоную думку, Мінск у параўнанні з Лонданам, напрыклад, вельмі зялёны, мае шмат камерных, утульных куточкаў, якія, натуральна, трэба добраўпарадкаваць. Ён і нам дапамог па-новаму ўбачыць аблічча і перспектывы архітэктурнага развіцця нашай сталіцы. І рэч не ў тым, што ў ягоны сілуэт трэба ўпісваць хмарачосы са шкла і жалезабетону на ўзор новага Парыжа, ці Франкфурта-на-Майне, але варта выявіць выдатныя рэльефныя дадзеныя, зрабіць архітэктурнае асяроддзе больш гуманным, набліжаным да штодзённых патрэб чалавека, як у працы, так і ў адпачынку. Балазе, ёсць неабмежаваныя магчымасці нават у цэнтры Мінска, дзе шмат вольнага месца. Гэта дворыкі паабапал вялікіх праспектаў і вуліц, шматлікія скверыкі, узбярэжжа Свіслачы і г.д.



Святаслаў Каржанеўскі неаднойчы спрабаваў свае сілы ў праектаванні буйных грамадскіх аб'ектаў. Вяршыняй яго майстэрства праектанта быў вобраз Аўстралійскага парламента. Архітэктар знайшоў сабе сааўтараў і з іх тэхнічнай дапамогай зрабіў футурыстычны праект — цэнтрычную пабудову, якая па сваёй шматфункцыянальнасці і гармоніі нагадвае ідэальныя праекты "папяровых гарадоў", якія рэдка калі ажыццяўляюцца. Так адбылося і з яго ідэяй. Перамог праект, больш лёгкі для выканання.

У 80-х гг. спадар Каржанеўскі адкрыў сваю прыватную арт-студыю, дзе распрацоўвае праекты індывідуальных дамоў ці невялікіх грамадскіх пабудоў, што прынесла яму шырокую вядомасць. Напрыклад, арыгінальна вырашаны садок для дзетак розных нацыянальнасцей у Сіднэі ажно трапіў у паважны альбом лепшых узораў аўстралійскай архітэктуры за апошнія дзесяцігоддзі. Ніколі не паўтараецца архітэктар і пры стварэнні жылых, нават самых сціплых па памерах дамоў, ці нават гаспадарчых прыбудоў.

Ён свядома актыўна ўжывае натуральныя матэрыялы — дрэва і цэглу, каб асяроддзе для чалавека было больш прыязным, цёплым; ён звязвае свае будынкі з ландшафтам, каб чалавек пазбавіўся штучнай ізаляцыі, зняволення ў чатырох сценах ад матухны-прыроды. Гэта, як лічыць С.Каржанеўскі, у яго ад продкаў-беларусаў, ад іх ментальнасці, ладу жыцця, традыцый. І наведванне Беларусі, як ён усхвалявана сказаў, умацавала ягоныя творчыя прынцыпы.

*На здымку:* С. Каржанеўскі з жонкай (у цэнтры) на сустрэчы ў Беларускай Акадэміі мастацтваў.

**Яўген ШУНЕЙКА**

